ПОСТАЦІ

# РЫЦАР СВАБОДЫ

Усё тут наша,
толькі мы яму не свае.
*З народнага.*

Жыццё Браніслава Туронка нагадвае знічку. Праляцела і згасла. Асвяціўшы толькі на момант неба зыркім і прывабным святлом. Святлом беларускай веры, праўды і неўміручасці духу. "Жыццё кароткае — Радзіма вечная", — гаварылі старажытныя рымляне. І ў гэтых словах заключаецца ўся квінтэсэнцыя зямнога жыцця людзей, да катэгорыі якіх адносіцца і Браніслаў Туронак. У свой час адзін з актывістаў беларускага Адраджэння Аляксандр Уласаў пісаў: "Усе павадыры нашы на беларускай справе кар"еры не зрабілі. Жыццё іх горкае, мучаніцкае і ідуць яны не па кветках, але па калючках". Гэтыя словы па праву адносяцца і да нашага героя. Штрафы, канфіскацыі, пераследы, турмы суправаджалі ўсю ягоную недоўгую зямную дарогу. Часта судзілі ні за што. Проста так. Каб скарыўся, зламаўся, нарэшце, здаўся. Але не дачакаліся. Навечна застаўся чалавекам, асобай, грамадзянінам, тым і цікавы нам, яго нашчадкам.

Нарадзіўся Браніслаў Туронак 22 чэрвеня 1896 года ў фальварку Пестуны недалёка ад мястэчка Новы Пагост Дзісенскага павета ў сям'і арандатара. Сям'я на той час складалася з трох душ. Бацькі, Сціпан і Канстанцыя, і старэйшы брат Уладыслаў. У 1900 годзе Туронкі перабраліся ў Янопаль, дзе бацька пачаў арандаваць фальварак, які належаў пану Уладыславу Козел-Пакрэўскаму. Гэта было даволі глухое, закінутае, пустэльнае месца. У Янопалі сям'я пабольшала. Акрамя двух сыноў нарадзіліся яшчэ тры дачкі: Фартуната, Антаніна ды Агнешка.

Як на тым часе, дык жылі Туронкі даволі заможна. Мелі пяць коней, дванаццаць кароў, ды іншай жывёліны хапала. Сам гаспадар "шыў боты, рабіў бочкі, вёдры ды іншыя хатнія прылады і гаспадарчае абсталяванне". Жылося ў прынцыпе нядрэнна, але даводзілася шмат працаваць, каб утрымаць гаспадарку на належным узроўні. Не заставаліся ў баку ад работы і дзеці, а іх на той час на двух хлопчыкаў паболела. У 1909 нарадзіўся Ігнат, а праз сем гадоў Віцька.

Нягледзячы на тое, што ў сям'і ашчаджалася кожная капейчына (ды і пара рабочых рук), тым не менш, Сціпан Туронак стараўся, каб дзеці атрымалі адпаведную адукацыю і выйшлі ў людзі. Напрыклад, старэйшы сын Уладыслаў скончыў 4 класы народнага вучылішча, а дачка Фартуната — пачатковую школу — і збіралася паступаць у гімназію. Але асаблівую цягу да навукі праяўляў Бронюсь. На некаторых, часта супярэчлівых, звестках вядома, што скончыў ён шасцікласнае народнае вучылішча ў Новым Пагосце. Затым была вучоба ў Віленскай васьмікласнай прыватнай гімназіі, якая існавала пры Таварыстве распаўсюджвання сярэдняй адукацыі.

Але далейшую вучобу перарвала сусветная вайна. У 1915 годзе фронт наблізіўся да Вільні. Дзякуючы дапамозе дзядзькі Браніслаў Туронак быў уключаны ў групу моладзі, якая выехала спачатку ў Віцебск, а потым у Яраслаўль. Тут, у гэтым старым рускім горадзе, ён скончыў гімназію і атрымаў атэстат сталасці.


Браніслаў Туронак.
ФОТА З АРХІВА "РГ".

Хутчэй за ўсё, менавіта тут, у Расіі, і з'явілася ў душы маладога Браніслава Туронка кроўнае пачуццё прыналежнасці да беларускага народа. Хоць, праўда, для гэтага і раней былі падставы. Дома заўсёды размаўлялі па-беларуску і, не звяртаючы ўвагі на час і каталіцкае веравызнанне, лічылі сябе беларусамі. Але тут, на чужыне, "дзе і паветра чужое, і дыхаецца не так", адарванасць ад дому, ад Радзімы заўсёды выклікае абвостранае пачуццё любові да страчанага. Адбывалася пакутлівае вяртанне да сваёй мовы, культуры, да Беларусі. Уплывалі на такое вяртанне і некаторыя нацыянальныя і культурныя дзеячы, якія апынуліся ў той час у Яраслаўлі. А гэта Радаслаў Астроўскі, драматург Васіль Гарбацэвіч ды іншыя. Там жа вучыўся ў юрыдычным ліцэі і Максім Багдановіч, які неадночы наведваў беларускія зборкі, дзе ставіліся спектаклі, чыталіся рэфераты па гісторыі і культуры Беларусі, спяваліся беларускія народныя песні. Ды і час быў спрыяльны. Усе нацыянальнасці тагачаснай Расійскай імперыі, гэтай "турмы народаў", адчуваючы непазбежнасць краху царскай дэспатыі, пачалі актыўна гуртавацца, ствараць свае арганізацыі, таварыствы, суполкі. Не засталіся ў баку і беларусы.

На Радзіму Браніслаў Туронак вярнуўся пасля лютаўскай рэвалюцыі перакананым беларусам і актыўным грамадскім дзеячам. І адразу ўключыўся ў працу. Ужо ранняй восенню 1917 года, згуртаваўшы вакол сябе некалькі мясцовых інтэлігентаў, ён з іх дапамогай арганізаваў 15 пачатковых беларускіх школ, якія праіснавалі да прыходу палякаў у 1919 годзе. Але самога праца вясковага настаўніка не прывабліваля. Яшчэ жывучы ў Яраслаўлі, ён паслаў прашэнне і дакументы для паступлення на юрыдычны факультэт Харкаўскага універсітэта. Запрашэнне на вучобу атрымаў у пачатку кастрычніка 1917-га года і адразу выехаў у Харкаў. Але правучыўся там нядоўга, усяго некалькі тыдняў. Пачалася кастрычніцкая рэвалюцыя, а за ёй лютая грамадзянская вайна на Украіне. Вучобу на няпэўны час вымушаны быў адкласці і вярнуцца на Беларусь.

На Дзісеншчыну вярнуўся позняй восенню таго ж года. Настаўнічаў. Спачатку ў беларускай школе ў Більдзюгах, а затым у Новым Пагосце. Навязаў добрыя сяброўскія стасункі з ксяндзом Адамам Станкевічам — лідэрам беларускіх хадэкаў — якія не прыпыніліся да канца жыцця. Беларуская Хрысціянская Дэмакратыя (БХД), альбо, інакш кажучы, хадэцыя, была найбольш уплывовай тагачаснай незалежніцкай партыяй. Мела моцныя ўплывы і на каталіцкае насельніцтва Дзісеншчыны. У шэрагах партыі знаходзілася значная колькасць каталіцкіх святароў, сярод якіх найбольш аўтарытэтным быў Адам Станкевіч. Гэтае сяброўства і вызначыла ў далейшым палітычныя сімпатыі і грамадзянскія перакананні Браніслава Туронка.

У лютым 1918 года Дзісеншчыну захапілі немцы, затым прыйшлі бальшавікі, а за імі палякі. І кожны стараўся ўсталяваць тут сваю ўладу і застацца навечна. Пры гэтым не лічыліся ні з жаданнямі мясцовага насельніцтва, ні з яго патрабаваннямі. Але, на шчасце, праца да жыцця брала верх. Браніславу Туронку карцела вучыцца далей. Яго цягнула, прываблівала, спакушала старажытная Вільня.

Вільня! Дарагая, святая Вільня! Горад нашай славы і гонару, нашага болю і пакут, нашых незрэалізаваных магчымасцяў і планаў. Горад нашай ідэі і святых памкненняў, горад нашай сталасці і маладосці. Любая і незабыўная Вільня! У любую пару года, ці гэта завейная і снежная зіма, ці зялёная і пяшчотная вясна, цёплае і аксамітнае лета ці жоўта-чырвоная восень, ты заўсёды ласкавая і прыгожая. Наша прыўкрасная Вільня!

Прыехаўшы ў Вільню, Браніслаў Туронак адразу навязаў кантакты з Адамам Станкевічам. Якраз у гэты час адчыніліся першыя Беларускія настаўніцкія курсы. Слухачы іх атрымлівалі бясплатнае харчаванне, мелі магчымасць паглыбіць свае веды ў галіне беларусазнаўства ды і завязаць асабістыя кантакты з аднадумцамі. Улічваючы той факт, што Браніслаў Туронак сам калісьці настаўнічаў, то паступіць яму на гэтыя курсы не склалася цяжкасцяў. Кіраўніком тых курсаў быў Янка Станкевіч, стрыечны брат ксяндза Адама, а выкладчыкамі Максім Гарэцкі, Вацлаў Ластоўскі, Клаўдзіюш Душ-Душэўскі, Міхал Кахановіч ды іншыя. Разам з Браніславам Туронкам на гэтых курсах займаліся некаторыя дзеячы, якія пакінулі адметны след у новай гісторыі Беларусі. Напрыклад, Уладыслаў Казлоўскі, Янка Бялькевіч, Вера Матэйчук. У свой час Вера Матэйчук успамінала: "Гэты настаўніцкі курс быў не толькі месцам павышэння педагагічных кваліфікацыяў настаўнікаў, але і своеасаблівай школай грамадскіх дзеячоў, а нават партыйнай "біржай". Найбольшую актыўнасць праяўлялі тут эсэры, дзейнічалі народнікі, хадэкі". Што датычыць Браніслава Туронка, то ён пэўнай сімпатыі да той ці іншай партыі не меў, лічачы, мусіць, агульнанацыянальную працу важней за вузкапартыйную, аднабокую. Ды і па характары быў непадобны да партыйнага дзеяча. Заўсёды вясёлы, камунікабельны. Любіў пажартаваць, пасмяяцца. Стараўся не прапускаць "ніводнай танцавальнай вечарынкі", апранаўся проста, але з густам. Быў крыху вышэй сярэдняга росту, статны, прыгожы. Сапраўдны беларускі засцянковы шляхціц у лепшым сэнсе гэтага слова.

А ў гэты час у Вільні адбывалася не абы якая падзея. Дэкрэтам Язэпа Пілсудскага ад 28 жніўня 1919 года ў Вільні быў адчынены універсітэт, названы ў гонар Стэфана Баторыя, караля польскага і Вялікага князя Літоўскага. Урачыстае адкрыццё адбылося 11 кастрычніка таго ж года. Але нармальнай працы перашкодзілі польска-савецкія баявыя дзеянні летам 20-га года. Вучоба была здэмаралізавана. Кіраўніцтва універсітэта выехала спачатку ў Варшаву, а затым у Познань. У Вільню ўвайшла Чырвоная армія. Ненадоўга. Пацярпеўшы сакрушальную паразу пад Варшавай ужо ранняй восенню 1920 года, бальшавікі вымушаны былі пакінуць нашу старадаўнюю сталіцу, а 9 кастрычніка таго ж года Вільню занялі польскія (літоўска-беларускія) палкі генерала Люцыяна Жэлігоўскага. Пачалася амаль 20-гадовая польская акупацыя Заходняй Беларусі.

У студзені 1921 года была аднаўлена праца Віленскага універсітэта. Ягоным студэнтам стаў і Браніслаў Туронак. Па ўспамінах жонкі вядома, што атрымаў ён студэнцкае пасведчанне пад нумарам 6, а гэта значыць, што быў Браніслаў "адным з першых студэнтаў аднаўленага універсітэта". Ужо тады сярод студэнтаў была даволі ладная беларуская група, якая ў снежні 1921 года аформілася ў Беларускі Студэнцкі Саюз (БСС). Яго арганізатарамі былі Браніслаў Туронак, Антон Абрамовіч, Францішак Пяткевіч, Тодар Куніцкі і Мікалай Марцінчык. Сваю галоўную задачу БСС бачыў у абуджэнні нацыянальнай свядомасці сярод беларускага студэнцтва, яго кансалідацыі і грамадскай актыўнасці. Пры Студэнцкім Саюзе пачалі працаваць культурна-асветная, навуковая і выдавецкая секцыі і бібліятэка. А ў сакавіку 1922 года быў заснаваны часопіс "Наш Шлях", як перыядычны орган БСС. Рэдактарам і выдаўцом стаў Браніслаў Туронак. На старонках "Нашага Шляху" друкаваліся Наталля Арсеннева, Зоська Верас, Мікола Марцінчык ды іншыя. Пад псеўданімам С. Радзіміч выступаў сам рэдактар. Прыкладам, яго пяру належаць цікавыя аналітычныя артыкулы "Наш шлях" і "Аб нашым месіянізме", змешчаныя ў названым выданні.

А жыць у Вільні Браніславу Туронку было цяжка. Матэрыяльна. Яшчэ перад паступленнем на універсітэт ён выказаў жаданне атрымліваць стыпендыю і месца ў інтэрнаце. Але жыць даводзілася на прыватных кватэрах. За жыллё плаціў "часткова грашыма, а часткова сушонымі баравікамі", якія падвозілі з дому родныя. Прыходзілася і галадаць. Час быў цяжкі, а з прадуктамі ў Вільні было не вельмі добра. Нягледзячы на розныя цяжкасці, ад грамадскай працы не ўхіляўся, за што карыстаўся вялікім аўтарытэтам сярод беларускага студэнцтва. Быў яго неафіцыйным лідэрам. У свой час адзін з сяброў Браніслава Туронка пісаў: "Гэта быў чалавек дадатны ў кожным сэнсе: свядомы беларус, апалітычны, спакойны, безсаганны сябра, культурны, працавіты. Ён добра вучыўся і, лічу, кожны дзень быў у памяшканні БСС. Адным словам, калі б усе людзі былі як с. п. Браніслаў Туронак, то быў бы рай на зямлі". Паважала яго і старэйшае грамадзянства. Хоць у той час ён не з'яўляўся сябрам якой-небудзь беларускай палітычнай партыі, але незалежнікам быў прынцыповым. Сваё жыццёвае і палітычнае крэда выказаў у артыкуле, які быў змешчаны ў 1923 годзе ў "Нашым Шляху": "Наша арыентацыя — гэта не арыентацыя на Польшчу, Расею, Літву ці кагось іншага, а на беларускі народ". У лістападзе 23-га быў выбраны сакратаром Беларускага таварыства помачы ахвярам вайны, дзе старшыянаваў ксёндз Адам Станкевіч. З'явіліся і новыя абавязкі. У канцы снежня таго ж года Браніслаў Туронак быў абраны рэдактарам вельмі папулярнай у тыя гады беларускай газеты "Крыніца". Гэтае выданне прызначалася, у першую чаргу, для беларусаў-каталікоў і было перыядычным органам БХД. Друкавалася газета паралельна лацінічным і кірылічным шрыфтам, а фінансавую дапамогу атрымлівала ад беларускіх каталіцкіх святароў і эміграцыйнага ўрада В. Ластоўскага з Коўна. Хоць рэдактарства Б.Туронка працягвалася нядоўга, недзе каля двух гадоў, але папсаваных нерваў і розных турбот для яго хапіла. Дастаткова згадаць толькі некаторыя факты. Так, з дваццаці нумароў, выпушчаных пад яго рэдактарствам, дзевяць было сканфіскавана польскай палітычнай паліцыяй. Акрамя таго, ў 1924 годзе ён быў прыцягнуты да судовай адказнасці і "ўзнагароджаны" значным грашовым штрафам. Але найбольшую непрыемнасць давялося яму перажыць пасля публікацыі ў газеце артыкула "Праўда аб Жодзішках". У ім, схаваўшыся пад псеўданімам "Тамашні", Туронак апісаў страшэнныя ганенні, якія перажываў мясцовы ксёндз, вялікі беларускі патрыёт, айцец Вінцэнт Гадлеўскі з боку польскіх акупацыйных уладаў. І ясная рэч, што палякам гэта не спадабалася. У адну з майскіх начэй 25-га года Браніслаў Туронак быў арыштаваны, а нумар газеты з публікацыяй канфіскаваны дэфензівай. Прыйшлося спазнаць і ўсю "справядлівасць" тагачаснага польскага правасуддзя. За праўду, сказаную ў артыкуле, Б. Туронак атрымаў два месяцы турэмнага зняволення і забарону ў будучым займаць пасаду рэдактара. Вось такая яна была, свабода па-польску!

За вучобай, актыўнай грамадскай дзейнасцю Браніслаў Туронак не заўважыў, як імкліва праляцеў час. І вось ужо 1924 год. Год развітання з універсітэтам, сябрамі і выкладчыкамі, якіх паспеў палюбіць. Двухгадовую практыку адбываў на Віленшчыне, а 3 ліпеня 1926 года атрымаў дыплом доктара лекарскіх навук. Працу доктара арганічна спалучаў з палітычнай і грамадскай дзейнасцю. А час быў цікавы. Набірала сілу Грамада. Створаная "пад непасрэдным кіраўніцтвам КПЗБ", яна штораз больш звязвала сваю дзейнасць з савецкім Мінскам, ставячы перад сабой канчатковай мэтай далучэнне Заходняй Беларусі да БССР, што не падабалася беларускім незалежнікам. І калі ўзнікла ідэя стварэння незалежніцкай парламенцкай партыі ў супрацьвагу Грамадзе, то Туронак быў сярод яе заснавальнікаў. Такая партыя была створана і называлася Беларускі Сялянскі Саюз (БСС). 24 сакавіка 1926 года ў Вільні адбыўся І з'езд Сялянскага Саюза. Быў абраны яе Цэнтральны Камітэт у складзе: В. Рагуля (старшыня), Т. Куніцкі і Ф. Ярэміч (намеснікі), А. Більдзюкевіч (сакратар) і Б. Туронак (нам. сакратара). А крыху пазней, як прадстаўнік БСС, Туронак быў уведзены ў Беларускі Нацыянальны Камітэт, які з'яўляўся своеасаблівым каардынуючым цэнтрам усіх незалежніцкіх сілаў Беларусі. І ўвогуле тагачаснай актыўнасці Браніслава Туронка можна пазайздросціць. Паглядзіце самі.

Калі ў выніку супрацоўніцтва БСС з БХД узнік Беларускі інстытут гаспадаркі і культуры (БІГіК), то Браніслаў Туронак абіраецца старшынёй управы яго Віленскага аддзела. Пазней узначальвае Гандлёва-прамысловы банк, створаны БІГіКам. А ў 1928 годзе ён быў вылучаны кандыдатам ад Блока нацыянальных меншасцяў Польшчы ў Сейм. Толькі, на жаль, не перамог, а заняў другое месца. А яшчэ ж былі чытанні папулярных лекцыяў на гістарычныя, асветныя і медыцынскія тэмы. Ды і пісаў нямала. Напрыклад, у "Беларускім календары" за 1928 год можна прачытаць яго артыкулы "Аб сухотах" і "Дагляд над малым дзіцём". А ў 1928 годзе ў выдавецтве "Беларуская крыніца" выйшла яго кніга "Гігіена ўзгадавання дзіцяці". Была яна невялічкага фармату, налічвала 40 старонак друку ды набраная лацінічным шрыфтам. Але быў гэта, на жаль, апошні перыяд яго бурнай грамадскай дзейнасці.

Крыху раней, недзе ў 1926 годзе, на адным з беларускіх набажэнстваў, якія праходзілі ў касцёле Святога Мікалая, Браніслаў Туронак пазнаёміўся з прыгожай, вельмі інтэлігентнай дзяўчынай Марыяй Рэшаць. Была яна роднай сястрой вядомага грамадскага дзеяча, знанага беларускага каталіцкага святара Язэпа Рэшаця. Праз нейкі час знаёмства перарасло ў каханне, а 31 студзеня 1928 года ў касцёле Святога Якуба адбыўся іх шлюб. І як ні дзіўна, але ён унёс істотныя змены ў далейшае жыццё Б. Туронка. Вясной таго ж года па невядомай цяпер прычыне ён пакідае Вільню і пераязджае ў глухое "жыдоўска-польска-літоўскае мястэчка" Дукшты. Што сталася таму прычынай? Чаму ён, такі актыўны чалавек, пакідае Вільню, гэты цэнтр беларускага жыцця, і выязджае ў своеасаблівую добраахвотную высылку? Не ведаю. У далейшым жыў Браніслаў Туронак звычайным жыццём мястэчковага лекара. Гадаваў дзяцей. А іх было ў яго трое. Дарэчы, усе сыны. Стараўся выхаваць іх патрыётамі. У хаце заўсёды размаўлялі на роднай мове, шанавалі родную кнігу, часопіс, газету, часта спявалі народныя песні. Пры магчымасці, дапамагаў беларускім арганізацыям фінансава. Так, неаднойчы, яго прозвішча значылася сярод ахвярадаўцаў на часопіс "Шлях моладзі". Істотную суму грошай унёс ён і на будаўніцтва надмагільнага помніка беларускаму пісьменніку Ядвігіну Ш. Былі і іншыя добрыя справы. Не забываліся пра яго і сябры. Іншым разам наведваліся Язэп Малецкі, Пётра Сергіевіч, Міхась Машара ды іншыя. Хто ведае, як склалася б жыццё Браніслава Туронка ў далейшым. Ды яшчэ напярэдадні Другой сусветнай вайны. Напэўна б, не найлепшым чынам. Але лёс распарадзіўся па-свойму. У час адной паездкі да хворага ён моцна прастудзіўся, а 19 верасня 1938 года яго не стала...

Жыццё Браніслава Туронка нагадвае знічку. Праляцела і згасла. Пакінула на зямлі толькі невялікі след ягонай прысутнасці. Прысутнасці чалавека неабыякавага, мэтанакіраванага і апантанага. Грамадзяніна і змагара, які ўсе паручастыя шляхі беларускай гісторыі пачатку 20-га стагоддзя прайшоў разам са сваім народам верна і да канца.

*Міхась КАЗЛОЎСКІ.*

*Вышэйшая ліга*

# Тушы святло, злівай ваду...

## *Далей варыянты на ваш густ*

**4.10 "Маладзечна" – "Ліда" 0:2**

1000 гледачоў; галоўны арбітр Вадзім Жук (Мінск).

11 Макрыцкі, 10 Зрыбненка
4 С. Кабельскі (кап.)
3 Парываеў, 8 Дзербан, 7 Дзіковіч
(16 Пілецкі, 60) (15 Яўсеенка, 46) (14 Лабецкі, 46)
9 Дараховіч
5 Д. Кабельскі, 6 Вольскі
2 Рагуновіч
1 Васілеўскі

**Галы:** Прыходзька (17), Хохлач (51).

**Запасны:** Ваўчок.

**Папярэджанні:** Парываеў, Дзіковіч, Д. Кабельскі, Рагуновіч

На 56–й хвіліне С. Кабельскі **не рэалізаваў пенальці**

## Перад матчам

Усе разумелі, што ў гаспадароў заставаліся толькі тэарэтычныя шанцы захаваць месца ў вышэйшай лізе. Адміністратар ФК "Маладзечна" Юрый Акулееў у перадматчавай размове сказаў:

– Лепш у гэтым сезоне апынуцца ў першай лізе, бо ў наступным туды "вылецяць" чатыры клубы. Можа, гарадскія ўлады паразважаюць над гэтым пытаннем і дапамогуць стварыць сапраўдную каманду. Хаця... Уражанне, што нікому ў горадзе яна не патрэбная. Значыць, клубам трэба кіраваць з Мінска.

## Матч

Як гаспадары, так і госці доўгі час не маглі наладзіць узаемадзеянне. Гледзячы на гэта, інспектар матча ўзяўся за галаву:

– Гэта сустракаюцца каманды вышэйшай лігі! Раней так гулялі завадчане.

Потым інспектар прымусіў усміхнуцца людзей, якія сядзелі побач: пад ім трэснула крэсла, і ён ледзь не апынуўся на падлозе.

Першы небяспечны момант стварылі маладзечанцы. Сяргей Дараховіч далёкім ударам праверыў рэакцыю галкіпера лідчан. Яна была адметная. Госці адказалі вынiковай атакай. Тут памыліліся ўжо абаронцы, якія на далёкай штанзе пакінулі Прыходзьку аднаго – 0:1.

Наступную небяспеку маладзечанцы стварылі толькі праз дзесяць хвілін. Віталь Макрыцкі атрымаў мяч на лініі варатарскай, але не здолеў яго ўтаймаваць: не хапіла майстэрства. Потым Сяргей Кабельскі і Аляксандр Вольскі не скарысталі магчымасці для ўзяцця варот Валянціна Бурноса.

Ужо ў пачатку другога тайма госці забілі зноў. А ў гаспадароў стопрацэнтны момант не скарыстаў Кабельскі–старэйшы: не забіў пенальці. Калі лідэр каманды не можа адолець нервы, то што казаць пра іншых? Футбалісты "Ліды" ўбачылі разгубленасць супернікаў і пачалі атакаваць з большым натхненнем. Толькі на 68–й хвіліне Іван Зрыбненка патурбаваў варатара Бурноса: мяч пасля яго ўдару прайшоў у метры "з хвосцікам" ад штангі.

У адным з эпізодаў нечакана зваліўся на газон суддзя Вадзім Жук. Вось яно, адно з "лепшых" палёў Беларусі.

На фінішы сустрэчы Аляксандр Васілеўскі тройчы прыходзіў у штрафную пляцоўку гасцей пры выкананні вуглавых, але змяніць лік на табло не атрымалася. Цягнік у першую лігу пададзены, білеты ёсць. Шчаслівай дарогі, "Маладзечна"!

## Пасля матча

**Іван Прохараў** ("Ліда"):

– Мы атрымалі перамогу, нягледзячы на тое, што гаспадары поля не хацелі аддаваць тры ачкі без бою. Лічу, што гульня спадабалася гледачам, бо спартыўнай барацьбы хапала на працягу ўсяго матча.

**Уладзімір Галубко** ("Маладзечна"):

– Калі не шанцуе, то да канца. Незабіты пенальці маральна надламаў хлопцаў. Такім чынам, выйгралі тыя, хто больш гэтага хацеў. Ці, нават, умеў.

*Юлія ВАНСЛАЎ.*

**ТУРНІРНАЯ ТАБЛІЦА**

| КАМАНДА | АЧКІ |
|---|---|
| 1. БАТЭ | 70 |
| 2. «Днепр-Трансмаш» | 59 |
| 3. «Славія» | 58 |
| 4. ФК «Гомель» | 54 |
| 5. «Шахцёр» | 52 |
| 6. «Дынама» (Мн) | 49 |
| 7. «Белшына» | 41 |
| 8. «Дынама» (Бр) | 37 |
| 9. «Нёман–Белкард» | 36 |
| 10. «Лакаматыў–96» | 32 |
| 11. «Тарпеда»–МАЗ | 32 |
| 12. «Нафтан-Дэвон» | 25 |
| 13. ФК «Ліда» | 19 |
| 14. «Тарпеда–Кадзіна» | 17 |
| 15. «Свіслач–Дах» | 16 |
| 16. ФК «МАЛАДЗЕЧНА» | 11 |

Гомель – Славія 1:1, Свіслач-Дах – Лакаматыў-96 2:2, Шахцёр – БАТЭ 0:1, Нёман-Белкард – Славія 2:3, Днепр-Трансмаш – Белшына 3:0, Нафтан-Дэвон – Гомель 1:2, Дынама (Мн) – Дынама (Бр) 3:2, Тарпеда-МАЗ – Тарпеда-Кадзіна 0:0.

**Бамбардзіры:** Стрыпейкіс (Славія) – 21, Алешчанка (Лакаматыў-96), Кутузаў (БАТЭ) – па 17.

*Сяргей ГАЙКОВІЧ.*

*Міхаіл Мархель:*

# Нас выкарыстоўвалі

За галоўным трэнерам Уладзімірам Касакоўскім "Маладзечна" пакінулі (па афіцыйнай версіі, былі адлічаныя) такія дасведчаныя ўзроставыя гульцы, як Міхаіл Мархель, Сяргей Федаровіч, Сяргей Вайтовіч, а таксама Валерый Паўлавец і Уладзімір Кацкель. Сваімі пачуццямі і меркаваннямі аб гэтай канфліктнай сітуацыі з "РГ" дзеліцца самы вядомы, бадай, футбаліст сярод іх – **Міхаіл Мархель**, які пагуляў яшчэ за мінскае "Дынама" савецкіх часоў, а потым нацыянальную зборную Беларусі.



*Міхаіл Мархель б'е па варотах. Увага і супернікаў, і партнёраў прыкаваная толькі да яго.*

ФОТА СЯРГЕЯ КАПЫЛОВА.

– Хачу выказацца наконт стаўлення кіраўніцтва маладзечанскага клуба да футбалістаў каманды. Нас выкарыстоўвалі, пакуль мы былі патрэбныя. А потым зрабілі крайнімі, абвінавацілі ў тым, што не гуляем як след, не аддаемся барацьбе, патрабуем грошы; сказалі нават пра зніжэнне спартыўнага майстэрства, што проста недарэчна гучыць. Дык навошта было нас запрашаць? Дарэчы, цалкам зробленае мы яшчэ не атрымалі. Лічу, галоўная прычына якраз у тым, што клуб не мае грошаў, і лягчэй адлічыць "старых", чым заплаціць ім. Хаця асабіста мяне аніякія рублі не прываблівалі, бо клуб "Маладзечна" неяк смешна асацыіраваць з магчымасцю добрага заработку. Я ішоў сюды, каб дапамагчы камандзе і каб удасканальвацца як трэнеру, бо звязваю сваё будучае менавіта з гэтай прафесіяй...

Нам вельмі хацелася, каб гарадскія ўлады прыйшлі ў калектыў, запыталіся пра праблемы. Гэтага не было, значыць, каманда нікому не патрэбная? Ці, можа, клубныя кіраўнікі гавораць там, наверсе, што ўсё добра? Як бы яно ні было, а ў цяжкую хвіліну ніхто не прыйшоў на дапамогу. А трэба ж было зрабіць "бацькам горада" самую дробязь, каб захаваць клуб у вышэйшай лізе; магчыма, проста прыйсці і маральна падтрымаць хлопцаў перад матчам з Асіповічамі.

***Ад аўтара.** Напэўна, словы Міхаіла Мархеля выклікаюць неадназначную рэакцыю сярод чытачоў. Хацелася б пракаментаваць некаторыя моманты.*

Узаемаадносіны гульцоў і кіраўнікоў ніколі не вызначаліся вялікім даверам. Напэўна, усё добра толькі ў самых лепшых камандах, якія жывуць, што называецца адной сям'ёю, калектыў у якіх ствараўся не адзін год, нарэшце, якія вырашаюць высокія задачы. Прыкладам, на ўзоры барысаўскага БАТЭ. Што тычыцца маладзечанскага клуба, дык пры цяперашняй неўладкаванасці праблемы, падобныя тым, што назваў Мархель, проста непазбежныя.

Крыўду выказвае Міхаіл на вельмі халодныя адносіны да каманды з боку гарадскіх уладаў. З аднаго боку, футбалісты павінны гуляць у першую чаргу для балельшчыкаў, прынамсі для тых двух з паловай тысяч чалавек, што падтрымлівалі каманду дажджлівым вечарам на матчы з асіпаўчанамі. Але ж, з іншага боку, павінны быць пабач з жыхарамі свайго горада і яго "бацькі".

Адразу ж узнікае думка: а ці будзе зроблена ўсё магчымае, каб каманда вярнулася праз год у клас мацнейшых? Дарэчы, ажыццявіць гэта будзе складаней, чым у апошнія сезоны, бо вышэйшая ліга праз год скароціцца на двух удзельнікаў. Пакуль радуе толькі адзін факт. Ужо з наступнага тыдня распачнецца рэканструкцыя футбольнага поля на гарадскім стадыёне, якое выклікала так шмат нараканняў у бягучым сезоне.

Калі ўсё пойдзе па плане, дык гуляць на ім можна будзе ўжо наступным летам. Дарэчы, апошні сёлетні дамашні матч маладзечанцы правядуць супраць брастаўчан, відаць, на Чысці. Калі федэрацыя футбола краіны дасць грошай, што прыйшлі з УЕФА на патрэбы стадыёнаў, дык можна будзе правесці рамонт раздзявальняў і іншых памяшканняў. Магчымасці гарадскіх прадпрыемстваў і тут застануцца нявыкарыстаныя?

*Сяргей ГАЙКОВІЧ.*

*Футбол, 1/8 фінала Кубка краіны*

**Нёман-Белкард (Гродна) – Маладзечна 4:1 (0:0)**

01.10, 2000 гледачоў, галоўны арбітр Браніслаў Ясінскі (Мінск)

11 Яўсеенка, 10 Зрыбненка
4 С. Кабельскі (кап.)
3 Парываеў, 8 Дзербан, 3 Лабецкі
Пілецкі, 51)
7 Дзіковіч
5 Д. Кабельскі, 6 Вольскі
2 Рагуновіч
1 Васілеўскі

**Галы:** Мазурчык (54, 69-пен.), Палякоў (60), Траскевіч (71); С. Кабельскі (79).

**Папярэджанне:** С. Кабельскі.

На выезд адправіліся ўсяго дванаццаць футбалістаў. За апошні тыдзень з каманды адлічылі **Міхаіла Мархеля, Сяргея Федаровіча, Сяргея Вайтовіча, Валерыя Паўлаўца** і **Уладзіміра Кацкеля**. У юнацкую зборную адправіліся **Павел Плют, Віталь Бычкоўскі, Павел Рыжэўскі**. Не маглі гуляць (бо ў гэтым кубкавым розыгрышы ўжо выступалі за "Забудову") **Сяргей Дараховіч, Віталь Макрыцкі** і **Дзмітрый Ваўчок**. Прыйшлося **Уладзіміру Галубко** выставіць толькі трох абаронцаў, а **Сяргея Кабельскага** пакінуць у цэнтры поля, бо аднаму **Вячаславу Дзербану**, які і так выйшаў з траўмай, там было б не справіцца.

Прапушчаныя галы былі зусім не абавязковыя, але ўзровень футбалістаў, што засталіся ў камандзе, дазваляе прайграваць такім чынам. Удар здалёку – **Аляксандр Васілеўскі** адпускае перад сабою мяч – **Юрый Мазурчык** працуе на дабіванні. Удар са штрафнога – серыя рыкашэтаў – у патрэбным месцы апынуўся **Уладзімір Палякоў**. Назначаецца спрэчны пенальці – Мазурчык робіць "дубль". Выхад двух нападаючых на галкіпера – пас **Арцёму Траскевічу**, які не прамахнуўся са становішча, падобнага на "па-за гульнёй". Сяргей Кабельскі забіваў, калі ўпэўнена разабраўся ў штрафной пасля дакладнай дыяганальнай перадачы **Андрэя Парываева**.

*Сяргей ГАЙКОВІЧ.*

*Мясцовы футбол*

# Сустракай новых!

Трыо лідэраў на турніры "Залатая восень": 1. "Аўтамабіліст" (27 ачкоў/10 гульняў) 2. "ЗЛМК" (21/7) 3. "Унікаб" (18/10). Лепшы бамбардзір – **Юрый Грачанік** ("Унікаб"), 10 мячоў.

Каманда "АВПС/ЗПМ" падзялілася на дзве: "АВПС" і "ЗПМ". Да розыгрышу падключыўся "Камунальнік". Такім чынам, у турніры ўдзельнічаюць 16 каманд.

*Юлія ВАНСЛАЎ.*

*Спартыўная гімнастыка*

# Лепшыя ў трэцім разрадзе

БАРЫСАЎ-МАЛАДЗЕЧНА. На абласных спаборніцтвах па спартыўнай гімнастыцы ў Барысаве маладзечанскія дзяўчынкі, выхаванкі трэнераў **Валянціны Канарэйкінай** і **Аляксандра Княжэвіча**, саступілі толькі гаспадыням і занялі другое агульнакаманднае месца.

Па праграме трэцяга дарослага разраду (хаця дзяўчынкам усяго каля дзесяці год) чатыры першыя месцы занялі нашы зямлячкі: 1. **Яўгенія Багінская**. 2. **Марына Асанава**. 3. **Алеся Дзмітрачэнка**. 4. **Марына Арцюшэнка**. Сярод кандыдатаў у майстры спорту першынствавала **Галіна Бабкевіч**.

Асанава і Дзмітрачэнка атрымалі права выступаць у складзе абласной каманды на рэспубліканскіх спаборніцтвах у Віцебску напрыканцы гэтага месяца.

*Сяргей ГАЙКОВІЧ.*

**АНОНС**

**10.10 Смаргонь – Лакаматыў (Віцебск)**

Пачатак 16.00. +2=1-0 5-1. Сёлета 3:1 (**Відук, Недавес, Курак**) на выездзе.

**10.10 АФВіС-РШВСМ (Мінск) – Забудова**

+2=1-0 5-1. Сёлета 2:0 (**Рыгаровіч, Гулевіч**) дома.

**13.10 Тарпеда-Кадзіна (Магілёў) – Маладзечна**

+6=5-4 24-16. Сёлета 0:5 дома.

*Жаночы футбол*

МАЛАДЗЕЧНА. У рамках адборачнага цыклу жаночага ЧЕ–2000 учора на гарадскім стадыёне адбыўся матч зборных Беларусі і Славакіі. Да пачатку гульні гэты нумар «РГ» знаходзіўся ўжо ў друкарні, таму вынік гульні паведаміць мы не паспяваем.

Матэрыялы, прысвечаныя жаночаму футболу, чытайце ў наступных нумарах.

*Аддзел інфармацыі.*

*Міні-футбол*

# Беразінцы заявіліся ў вышэйшую лігу

У вышэйшай лізе чэмпіяната Беларусі па міні-футболу сезона 1999-2000 возьмуць удзел чатырнаццаць каманд. Разам са старажыламі заявіліся некалькі навічкоў, сярод якіх нашы землякі з беразінскага "Металурга". Успомнім, яны не навічкі ў малым футболе. Штогод праводзяць свой камерцыйны турнір. Летась выступалі ў розыгрышы Фан-лігі.

Гуляць трэба будзе ў два кругі па сістэме з раз'ездамі ажно да красавіка. Дамашнія матчы каманда збіраецца праводзіць у Маладзечне ў новай стандартнай зале на ЗЛМК, якую будзе арандаваць. Праўда, будаўніцтва там яшчэ не завяршылася, так што ў кастрычніку прыйдзецца гуляць на выездзе. Першы матч ужо ў бліжэйшыя выхадныя ў Мінску супраць не самай моцнай "Энергіі". Палову футбалістаў "Металурга" складуць добра вядомыя нам па цяперашнім складзе **Дзмітрый Янель і кампанія**, другую палову – мінскія гульцы, што маюць досвед у футзале. Трэніруе **Канстанцін Харламаў**.

Амаль месяц каманда трэніруецца ў зале, што, магчыма, дрэнна адбіваецца на выніках у абласным чэмпіянаце па вялікім футболе. Удзельнічалі на трэцім традыцыйным турніры памяці першага Героя Беларусі падпалкоўніка **Уладзіміра Карвата**. Вось вынікі матчаў у групе. ДФЗ (Добруш) 9:4, "Энергетык" (Орша) 6:4, РТІ-"Заслаўе" 1:1, "Дарожнік" (Фаніпаль) 3:5. У 1/8 фінала перайгралі ПЗС (Мінск) 4:2, а ў чвэрцьфінале саступілі будучым пераможцам (на чале з самім **Георгіем Кандрацьевым**) "Сімургу" 0:4. Найбольш забіваў, натуральна, Янель.

*Сяргей ГАЙКОВІЧ.*

# Для тых, хто мае веласіпед

МАЛАДЗЕЧНА. 10 кастрычніка ў 9–30 мясцовы турклуб "Пілігрым" запрашае ўсіх, хто жадае, на веларалі "Маладзечанская восень".

Старт ад турклуба (вуліца М. Забэйды–Суміцкага, 4, былая Чапаева). Дыстанцыя каля 80 кіламетраў разбітая на два этапы. На кожным этапе па два кантрольныя пункты. З сабой патрэбна мець ручку, компас і... перакус.

На фінішы 1–га этапа (у турклубе) будзе прыгатаваная салодкая гарбата і пернікі – бясплатна. Пераможцаў і прызёраў чакаюць прызы ў асабістым і камандным заліку.

Прыязджайце – і вы не пашкадуеце. Добры зарад бадзёрасці і выдатны настрой вам гарантаваныя.

*Сяргей БЯЛКОЎ.*

*Другая ліга*

**РВАР (Мінск) – Смаргонь 1:1 (1:1)**

**Галы:** Курак (18); (42).

**Склад:** Ан. Канапелька, Ал. Канапелька, Недавес, Макей (Відук, 49), Юркевіч (кап.), Несцяровіч, Дукса (Цярэшчанка, 60), Якубіцкі, Дзегілевіч (Карабінскі, 84), Шагойка, Курак (Апяцёнак, 69).

Смаргонцы адкрылі лік, калі **Дзмітрый Курак** абакраў абаронцу, збег адразу ад трох праследвальнікаў і моцна ўдарыў у далёкі кут паўз галкіпера. Прапусцілі напрыканцы тайма, у першую чаргу, па сваёй віне. **Юрый Несцяровіч** рабіў дыяганальную перадачу, мяч трапіў у руку аднаго з навучэнцаў, і смаргонцы спыніліся ў чаканні свістка суддзі. Гульня тым часам працягвалася, гаспадары скарысталі разгубленасць супернікаў: праход па фланзе – прастрэльная перадача – гол.

Трэнер смаргонцаў **Андрэй Майсейчанка** задаволены вынікам, бо ўдалося згуляць унічыю з камандай, якой дома ў першым крузе саступілі 0:1. Па ходзе гэтай сустрэчы мінчане мелі перавагу. Напрыклад, яны стварылі куды больш вострых момантаў. Нават забілі другі гол, але быў зафіксаваны афсайд. Госці маглі вызначыцца яшчэ толькі аднойчы, калі трапны пас **Уладзіміра Апяцёнка** злева **Алег Цярэшчанка** завяршыў ударам у варатара.

Нейкія вялікія задачы на апошнія два туры смаргонцы перад сабою не ставяць. Проста лічаць, што цяперашнім складам дастойныя быць у пяцёрцы лепшых.

Дарэчы, "Забудова" яшчэ не страціла надзеі апярэдзіць "Азерцы", так што рэгіянальнае дэрбі ў фінальным туры 17 кастрычніка, будзем спадзявацца, стане цікавым і дастойным завяршэннем сёлетняга сезона.

Змена-БАТЭ – Будаўнік 5:1, Верас – Свіслач-Дах-2 6:0, Азерцы – Бярэзіна 1:1, Трактар – Днепр-2 7:2.

| | |
|---|---|
| 1. Трактар | 51 |
| 2. Змена-БАТЭ | 45 |
| 3. Азерцы (+1) | 43 |
| 4. **Смаргонь** | **39** |
| 5. **Забудова** | **38** |
| 6. РВАР | 38 |
| 7. Лакаматыў (-1) | 36 |
| 8. Верас | 34 |
| 9. Будаўнік | 24 |
| 10. АФВіС-РШВСМ | 18 |
| 11. Днепр-2 | 14 |
| 12. Свіслач-Дах-2 | 11 |
| 13. Бярэзіна | 9 |

*Сяргей ГАЙКОВІЧ.*

